ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Кніга Ноша
№ 30
люты, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Сяргей ЗАКОННІКАЎ:

# «Вершы не пішуцца, а нараджаюцца...»

**– Шаноўны Сяргей Іванавіч, у вершы «Лёгкі хлеб» Вы пішаце: «Лёгкім хлебам паэзію лічаць, стараюцца // «Ад сахі і станка» прарвацца да слова... // Ды метафары ўсё ж мазалём не ствараюцца, // Нельга рыфмы спарадкаваць, быццам дровы…». Сапраўды, цяпер шмат хто лічыць сябе паэтам, хоць радкі іх вершаў «спарадкаваныя, быццам дровы» і за прыгожай рыфмай няма глыбокіх дум ці пачуццяў. Як адрозніць сапраўдную паэзію ад штукарства?**

– Практычна ўсе людзі ў маленстве або ў юнацтве нешта рыфмуюць, рытмічна прамаўляюць нейкія радкі. Многія цішком запісваюць свае практыкаванні і лічаць іх паэзіяй. Сапраўдныя паэтычныя здольнасці, талент даюцца чалавеку Вышэйшай Воляю і не так часта, як гэта некаму здаецца. Апошнім часам агульны ўзровень якасці паэзіі, якая паступае ў рэдакцыі, або, напрыклад, мне асабіста, катастрафічна знізіўся, бо ў літаратуру кінуліся ўсе, каму не лянота, гэтым грашаць пенсіянеры, асабліва ў якіх няма лецішча.



Для мяне адрозніць сапраўдную паэзію ад штукарства не надта складана. Калі ў тэксце няма сардэчнага хвалявання, шчырасці і цяпла, натуральных перажыванняў, здзіўляючых назіранняў, свежых метафараў, калі ён не кранае, не чапляе маю душу, то гэта і ёсць штучнасць, зробленасць. Ад такіх вершаў заўжды зыходзяць холад і поўная абыякавасць да чытача. Ні мудрагелістыя канструкцыі формы, ні мадэрновыя рыфмы іх не ратуюць. Асабліва мне пярэчыць, калі ў аўтара няма адчування арганізаванасці, гармоніі, чуцця слова. Яно ніяк не хоча лезці ў радок, але вершаплёт бязлітасна б'е яго доўбняй па галаве і заганяе не ў сваё гняздо. Цяжка маральна і нават фізічна чытаць такія творы.

**– У адным з інтэрв'ю Вы казалі: «Свае кнігі я выдаваў толькі на асабістыя зберажэнні, на грошы, якія сам зарабіў». Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч выдаў збор твораў таксама на ўласныя сродкі. Чаму, на Вашую думку, выдаць кнігу ў Беларусі так цяжка? Што трэба зрабіць, каб для творцы шлях ад рукапісу да кнігі быў не такім складаным і доўгім?**

– Бываючы ў розных краінах (Францыі, Германіі, Даніі, Швейцарыі), я цікавіўся тым, як таленавітыя аўтары выдаюць свае кнігі. Найбольш шанцуе тым, хто атрымлівае дзяржаўныя гранты на напісанне канкрэтных рукапісаў. Там ёсць такая выдатная практыка. Але прывілеі заслугоўваюць ужо больш-менш вядомыя творцы, прытым іх колькасць абмежавана. Астатнім дапамагаюць мясцовыя мэрыі, розныя фонды, вельмі шырока практыкуецца спонсарства заможных людзей, бо дабрачыннасць не абкладаецца падаткам. Наадварот, дзяржава за ўвагу да культуры, літаратуры змяншае падатак на іхні бізнес.

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Сяргей Законнікаў – паэт, публіцыст, журналіст, грамадскі дзеяч. Аўтар кніг «Бяседа» (1973), «Пакуль жыве мая бяроза» (1981), «Вера, Надзея, Любоў» (1983), «Святая воля» (1993), «Лістам дарога запала...» (2000), «Дол» (2008), «Насустрач» (2008), «Шалёная Куля» (2010) і інш. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя. А.Куляшова (1982) за кнігу вершаў «Пакуль жыве мая бяроза». Нарадзіўся ў 1946 г. у вёсцы Слабада Бешанковіцкага раёна. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Барадулін Рыгор. Дзённікі і запісы. Выпуск I. 1951–1969. Укл., прадм., Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 328 с. [24] с.: іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн. 3].**

Гэта першы выпуск Дзённікаў і запісаў (1951–1969) народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна. У кнігу ўвайшлі вершы, якія не друкаваліся ў ранейшых зборніках, сяброўскія эпіграмы, віншаванні, дарчыя надпісы, а таксама малюнкі і аўтографы яго сяброў і знаёмых. Упершыню друкуецца самая першая, невядомая раней паэма «Зацвітаюць купавы» (1958–1959), прысвечаная лёсу бацькоў паэта.

Асобныя спасылкі на творы аўтара дапамогуць асабліва ўважлівым да яго жыцця, асобы і творчасці чытачам лепей арыентавацца ў вялікай творчай спадчыне паэта.




**Падарунак на Каляды. Зборнік святочнага апавядання. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 196 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

У кнігу ўвайшлі калядныя творы аўтараў з розных краінаў – Вялікабрытаніі, Польшчы, Германіі, Швецыі, Даніі, ЗША, Партугаліі, Анголы, Бразіліі. Тут ёсць і класічныя ўзоры жанру, такія, як «Калядны харал» Чарлза Дыкенса ці «Дары мудрацоў» О. Генры, і сучасныя апавяданні, дзеянне якіх адбываецца ў калядны і навагодні час. Сярод герояў гэтага зборніка – Дзед Мароз, хлопчык Ісус і Панна Марыя, духі Мінулых, Сёлетніх і Будучых Калядаў.




**Палац: літаратурны альманах. Гомель. №2, 2014. Укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 254 с.**

Другі нумар літаратурнага альманаха «Палац» знаёміць з паэзіяй, прозай, успамінамі, а таксама творамі для дзяцей, гістарычнымі і літаратуразнаўчымі матэрыяламі, прысвечанымі жыццёваму шляху і спадчыне знакамітых творцаў гомельскай зямлі. Асобны раздзел прысвечаны абрадам і традыцыям Гомельшчыны.




**Брама: літаратурны альманах. Магілёў. №2, 2014. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 278 с.**

На старонках выдання апублікаваныя творы 33 аўтараў, якія працуюць у паэзіі, прозе, перакладзе, літаратуразнаўстве і публіцыстыцы. Знайшлося месца і для сатыры і гумару. Асобны раздзел прысвечаны мемуарыстыцы – спадчыне, успамінам і дакументам. У прыватнасці, матэрыялам да 90-годдзя Валянціна Ермаловіча і да 25-годдзя Таварыства беларускай мовы.




**Справа: альманах: вып. 1–2015. Гал. рэдактар А. Навbooрыч. – Мінск: Смэлтак, 2015. – 240 с., з іл.**

У першым выпуску альманаха «Справа» Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў змешчаны творы беларускіх і ўкраінскіх аўтараў, як прызнаных класікаў, так і маладых. Чытач знойдзе тут паэзію, прозу, эсэістыку, пераклады, навуковую публіцыстыку.




**Вашкевіч Дар'я. Баваўняная дзяўчынка. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 16 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 5).**

Кніга Дар'і Вашкевіч «Баваўняная дзяўчынка» – пра і для дзяўчатак і хлопчыкаў ад двух да ста дзевятнаццаці гадоў. Яе можна чытаць удзень і ўначы, нашча ці толькі што пад'еўшы бабулінага супчыку, лежачы пад коўдраю або ўскараскаўшыся на яблыню. Галоўнае пры гэтым – кагосьці любіць. А астатняе – дэталі.




**Кулакоўскі Аляксей. Выбраныя творы. Уклад., прадм. і камент. С. Андраюка. – Мінск: Беларуская навука, 2014. – 576, [4] с.: іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя I. Мастацкая літаратура).**

Аляксей Кулакоўскі (1913–1986) – вядомы беларускі празаік. Творчасць яго жанрава і тэматычна багатая і разнастайная. У многіх творах багатая аўтабіяграфічная аснова. Аднатомнік склалі раман «Сцежкі зведаныя і нязведаныя», найлепшыя аповесці і апавяданні і крытычныя артыкулы.

Семдзясят пяты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Брыль Антон Францішак. Ян Ялмужна: казка. Мастак Марына Жвірбля. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 108 с.**

Пан Ольбрахт Гаштаўт – гаспадар Геранёнскага замка, магутны ваяр, важны ўраднік і найвялікшы ў краі аматар паданняў аб няўпомных часах. Пакоі Гаштаўта размаляваныя дзіўнымі фрэскамі, вакол яго двароў стаяць старажытныя лясы, а ў лясах і на ўзлесках чыняцца небывалыя справы. Але пана Ольбрахта ніякія цуды, здаецца, не здзіўляюць – ён і сам не просты, і знаёмцы ў яго незвычайныя. І нават пра яго кухмістра Яна Ялмужну можна расказаць цэлую казку.

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Пятровіч Барыс. Пуціна: аповесці. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 200 с.**

У кнігу ўвайшлі напісаныя на сумежжы тысячагоддзяў аповесці Барыса Пятровіча «Стах» і «Пуціна», у якіх яскрава спалучыліся рысы экзістэнцыяналізму, класічнага пісьма і стылёвага авангардызму. Пытанні, закранутыя ў творы «Стах», датычныя рэфармавання нацыянальнай свядомасці пасля 1994 года і шляхоў развіцця беларускай культуры, не страчваюць актуальнасці і цяпер.




**Цімафеева Юлія. Кніга памылак: вершы і пераклады. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 116 с.**

У дэбютную кнігу Юлі Цімафеевай увайшлі арыгінальныя вершы аўтаркі і зробленыя ёй пераклады замежнай паэзіі, пераважна англамоўнай (Ў. Уітмэн, С. Крэйн, Э. Лоўэл, Ў. К. Ўільямс, С. Плат, Ч. Букоўскі і інш. Вершы, якія склалі гэты зборнік, – выклік звыклым уяўленням пра жанчыну, асэнсаванне сябе як тэксту і тэксту як працягу ўласнай цялеснасці. Нездарма адзін з раздзелаў мае назву «Flovers and meat» («Кветкі і мяса») – менавіта гэтыя вобразы можна назваць ключом да разумення «Кнігі памылак».




**Гумянюк Юры. Краіна нязьдзейсьненых мараў. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 204 с. – (Бібліятэка Таварыства Вольных Літаратараў).**

«Краіна нязьдзейсьненых мараў» – першая кніга эсэістыкі Юрыя Гуменюка. На жаль, ён яе не пабачыць. Амаль два гады таму паэта не стала. Кніга ўкладзеная і выдадзеная ягонымі сябрамі. Зборнік аб'яднаў эсэістыку Юрыя Гуменюка, якая друкавалася ў 1990-х і 2000-х гадах у розных перыёдыках – часопісах «Калосьсе», «Czasopis» (Беласток), «Правінцыя» (Беласток), літаратурна-філасофскім сшытку «ЗНО» (дадатак да газеты «Культура»). Сабраныя разам гэтыя тэксты ствараюць кранальны партрэт арыгінальнага гарадзенскага творцы.




**Вішнёў Зміцер. Спітыя баркасы: тэксты. – Мінск: Каучэг, 2014. – 84 с.**

Новая кніга Змітра Вішнёва складаецца з падарожных вершаў. Аўтар вядзе хітрую гульню са словам і вобразам, слухае «грукат цягніковых зубоў» і «булькае пра свабоду», правакуе чытача да пабудовы фантазійных краявідаў. Каларыт гэтага зборніка стварае марская тэма: баркасы, якары, шторм, камбала, вясёлыя піраты.




**Юрэвіч Лявон. Відымусы. Пад рэд. Н. Гардзіенка; прадм. Г. Кісліцына. – Мінск: Лімарыус, 2015. – 180 с.**

«Відымусы» ньюёркскага архівіста Лявона Юрэвіча, паводле словаў літаратуразнаўцы, аўтара прадмовы Ганны Кісліцынай, уяўляюць сабою новы для беларускай літаратуры і літаратуразнаўства жанр, хоць і называюцца старым словам у значэнні «копіі, выпіскі». Кніга складаецца з невялікіх выпісаў-цытатаў з апублікаваных і неапублікаваных дакументаў, часам з аўтарскімі каментарамі. Запісы прысвечаныя літаратуры, гісторыі, штодзённасці, як эміграцыйнай, гэтак і метрапольнай беларускай.




**Федута Александр. Мой маленький Париж. – Минск: Лимариус, 2014. – 276 с.: ил.**

У кнізе ўспамінаў «Мой маленькі Парыж» Аляксандр Федута ўзнаўляе жыццё ў Гродне ў 1970–1980-я: сваё дзяцінства, школьныя і студэнцкія гады. Чытач знойдзе ў ёй яркае апісанне штодзённасці і старонкі гарадской гісторыі, якую сучаснікі, як правіла, не заўважаюць.




**Гоман: літ. альманах: вып. 1–2014. Гал. рэд. Ю. Савіцкая. – Мінск.: Смэлтак, 2014. – 132 с.**

У першым выпуску альманаху «Гоман літаратурны» змешчана паэзія, проза, публіцыстыка, а таксама гумарыстычныя творы 44 аўтараў з усіх куткоў Беларусі і нават з-за яе межаў. Таму зборнік атрымаўся надзіва разнастайным і цікавым.




**Эшноз Жан. 1914: раман. Пер. з франц. мовы Зміцера Коласа. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 100 с. – (Littera scripta).**

Напісаны ў іранічным стылі, блізкім да чорнага гумару, раман лаўрэата Ганкураўскай і шэрагу іншых літаратурных прэміяў Жана Эшноза (нар. 1947) распавядае пра падзеі Першай сусветнай вайны і тыя лёсы, якія сустрэлі на ёй галоўны герой Антым, яго брат і тры ягоныя сябры.




**Міранові Міхась. Жартачкі: гумар і сатыра: у 3-х кн. Кн. 2. – Мінск: Медысонт, 2014. – 420 с.**

«Жартачкі» вядомага паэта-гумарыста Міхася Мірановіча – гэта вясёлы зборнік трапных вершаваных карацелек, якія прапануюць чытачу з усмешкай паглядзець на радасці і клопаты штодзённага жыцця і абвязкова ўздымуць настрой.

# «Залаты апостраф» уручылі ў Мінску

**9 лютага ў мінскім бары «ДК» адбылося ўганараванне лаўрэатаў літаратурнай прэміі «Залаты апостраф»-2014.**

Сёлета лаўрэатамі прэміі, якая традыцыйна адзначае найлепшыя публікацыі ў часопісе «Дзеяслоў» за год і праводзіцца ўжо ў дванаццаты раз, сталі: у паэзіі Людка Сільнова, у прозе Сяргей Дубавец, у намінацыі «Дэбют» Мікіта Найдзёнаў. Спецыяльнай прэміяй Алеся Усені за ўнёсак у развіццё сучаснай беларускай літаратуры ўганараваны Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч.

Урачыстая цырымонія была арганізаваная ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і прайшла ў межах грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі».

– Адметнасць сёлетняй прэміі ў тым, што не абвяшчалася інтэрнэт-галасаванка, і рэдакцыя «Дзеяслова» сама абірала лаўрэатаў, склаўшы адразу шорт-ліст, – распавёў Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў» Барыс Пятровіч. – За 12 гадоў існавання «Залатога апострафа» былі ўганараваныя каля сарака чалавек. Першапачаткова было вырашана, што лаўрэатам прэміі можна станавіцца толькі адзін раз. Аднак цяпер мы бачым, наколькі цікавыя новыя творы з'яўляюцца ў нашых некалі ўжо ўзнагароджаных аўтараў, і, магчыма, з наступнага года мы памяняем правілы. Хацелася б дадаць, што адна з нашых намінацый – дэбютная – носіць імя Анатоля Сыса.

Вядучы вечара, адказны сакратар часопіса «Дзеяслоў» Анатоль Івашчанка прадставіў першага намесніка старшыні СБП Алеся Пашкевіча, які абвясціў намінантаў прэміі ў галіне прозы.


Сяргей ДУБАВЕЦ.

Лаўрэатам стаў Сяргей Дубавец за публікацыю «Вайна і мір. Справаздача» ў № 71.

Музычную частку вечара склалі выступленні ўдзельнікаў дзеяслоўскай Анталогіі перакладаў расійскай рок-паэзіі (№ 69).

Так, гітарыст Арцём Сітнікаў, скрыпачка Вікторыя Букоўская і флейтыстка Багдана Куталоўская выканалі па-беларуску песні Барыса Грэбеншчыкова. Раман Яраш праспяваў як аўтарскую песню, так і музычную інтэрпрэтацыю па матывах гімна «Магутны Божа». Творчасць БГ па-свойму пераасэнсавалі ў супольным выступе Анатоль Івашчанка і Уладзімір Дрындрожык.

Барыс Пятровіч распавёў гледачам пра стварэнне самага першага нумара часопіса «Дзеяслоў» і абвесціў лаўрэата «Залатога апострафа» ў галіне паэзіі – Людку Сільнову (публікацыя ў № 69).

Паэт, перакладчык, Старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра, колішні лаўрэат прэміі Андрэй Хадановіч праспяваў «Арландыну» і песню Уладзіміра Высоцкага па-беларуску.

Спадар Андрэй запрасіў усіх на IV Міжнародны паэтычны фестываль імя Міхася Стральцова з удзелам гасцей з Літвы, Латвіі, Нарвегіі, Швецыі, Украіны, Польшчы, які стартуе 12 лютага. Выступоўца зачытаў свае пераклады літоўскага паэта Гінтараса Граяўскаса і ўкраінскага Сяргія Жадана, якія неўзабаве прыедуць на фэст.

Спецыяльнай прэміяй Алеся Усені за вялікі ўнёсак у развіццё сучаснай беларускай літаратуры ўганараваны Ніл Гілевіч. За Ніла Сымонавіча, які па хваробе не змог прыйсці, узнагароду атрымаў яго сын Сяргей.

На вечарыне таксама выступілі пісьменнікі, лаўрэаты «Залатога апострафа» розных гадоў Алесь Бяляцкі, Анатоль Вярцінскі, Леанід Дранько-Майсюк, Уладзімір Някляеў. Якраз Уладзімір Пракопавіч і абвесціў сёлетняга лаўрэата ў намінацыі «Дэбют», паэта Мікіту Найдзёнава (апублікаваны ў № 73).

Напрыканцы імпрэзы ўсе ахвочыя змаглі атрымаць часопісы «Дзеяслоў» з аўтографамі аўтараў.


Людка СІЛЬНОВА.


Мікіта НАЙДЗЁНАЎ і Уладзімір НЯКЛЯЕЎ.

**Тэкст: Віка Трэнас, фота: Алена Казлова, для lit-bel.org**
**Прэсавая служба СБП**




**Гардзіенка Наталля, Юрэвіч Лявон. Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 300 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 23).**

Кніга «Рада БНР (1970–1982): Падзеі і дакументы» (23-я ў серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны») прысвечана беларускаму дзяржаўнаму прадстаўніцтву ў выгнанні часоў кіравання Вінцэнта Жук-Грышкевіча (1903 – 1988). Гэта храналагічны і зместавы працяг папярэдняга выдання «Рада БНР (1947 – 1970): Падзеі. Дакументы. Асобы» (Мінск, 2013). У кнізе пададзены пратаколы і дакументы з дзейнасці Рады БНР 1970 – пачатку 1980-х гг., ліставанне найбольш значных дзеячаў, бібліяграфія, хроніка. Гістарычны нарыс адлюстроўвае асноўныя кірункі і праблемы дзейнасці беларускага дзяржаўнага прадстаўніцтва на эміграцыі.




**Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі: зб. арт. Пад рэд. І. Э. Багдановіч. – Мінск: Кнігазбор, 2012. – 228 с. – (Беларусіка = Albaruthenica; Кн. 36).**

Новы зборнік навуковых артыкулаў, прысвечаных беларуска-польскім узаемасувязям у галіне мовазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыі і культуры, вызначаецца актуальнасцю тэматыкі, закранае шырокае кола гуманітарных праблемаў і культурна-гістарычных узаемадачыненняў абодвух народаў ад старажытнасці да сучаснасці. Адметнасцю дадзенага зборніка з'яўляецца асаблівая ўвага даследчыкаў да пытанняў гістарычнага ўзаемадзеяння беларускай і польскай моваў на лексікаграфічным і граматычным узроўнях; увага літаратуразнаўцаў да сучасных стасункаў у галіне драматургіі і тэатра; пашыраная цікавасць да заходнебеларускай праблематыкі; прапанаваны новыя тэарэтычныя падыходы да разумення літаратурнага працэсу на Беларусі ў XIX ст., а таксама новыя акцэнты ў вывучэнні спадчыны Я. Чачота, Я. Булгака, У. Караткевіча, «белавежцаў».

Зборнік разлічаны на беларускіх і польскіх даследчыкаў-гуманітарыяў, беларусістаў іншых замежных краінаў, выкладчыкаў вышэйшых навучальных установаў, настаўнікаў, студэнтаў і ўсіх зацікаўленых культурна-гістарычнымі стасункамі паміж беларускім і польскім народамі, а таксама праблемамі сучаснай славістыкі ў цэлым.




**Астапенка Анатоль. Мікола Ермаловіч: Той, хто вярнуў нам гісторыю. – Мінск: «Харвест», 2015. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Мікола Ермаловіч (1921–2000) адкрыў нам вочы на сапраўдную гісторыю Беларусі. Ён адкінуў ілжывы тэзіс расейскіх і летувіскіх гісторыкаў пра заваяванне жамойтамі беларускіх земляў у XIII ст. і даказаў, што беларусы – аславяненыя балты, а не збалтызаваныя славяне. Пасля Ермаловіча наша гісторыяграфія зрабілася прынцыпова іншай, чым яна была раней.




**Запісы таварыства аматараў беларускай гісторыі імя Вацлава Ластоўскага. Выпуск 4. Бітва пад Оршай. Укладальнік і рэдактар А. Я. Тарас. – Рыга: выданне ІБГіК, 2014. – 224 с.**

Чацвёрты выпуск «Запісаў ТАБГ» прысвечаны 500-годдзю славутай перамогі нашых продкаў над маскоўскімі захопнікамі 8 верасня 1514 г. У гэтым выпуску надрукаваны матэрыялы міждысцыплінарнай навуковай канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску 6 верасня 2014 г.: 12 рэфератаў, а таксама 11 перадрукаў. У сваёй сукупнасці яны даюць адказы на большасць спрэчных пытанняў, звязаных з Аршанскай бітвай і падзеямі вайны 1512–1522 гг.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуск 14. Составление, редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2014. – 320 с.**

Матэрыялы 14-га выпуску дайджэсту падзеленыя на пяць тэматычных раздзелаў. Яны прысвечаныя праблемам нацыяналізму, гістарыяграфіі, а таксама розным пытанням далёкага і блізкага мінулага Беларусі. Усяго ў выпуску 29 матэрыялаў і 86 ілюстрацыяў.




**Трусаў Алег. Кароткая гісторыя архітэктуры Беларусі. – Мінск: Харвест, 2015. – 464 с.: іл.**

Кніга прысвечана гісторыі беларускай архітэктуры ў яе розных праявах. Упершыню гаворка ідзе пра архітэктуру на тэрыторыі Беларусі ад эпохі палеаліту да канца савецкай эпохі. Акрамя культавага і абарончага дойлідства, аўтар разглядае жыллё вяскоўцаў і гараджанаў у розныя эпохі, будаўніцтва прадпрыемстваў, дарог, мастоў, каналаў. Кніга напісана папулярна, мае шмат ілюстрацыяў. Яна карысна выкладчыкам і студэнтам, настаўнікам і вучням, краязнаўцам і вандроўнікам, усім тым, хто любіць сваю Беларусь.




**Гісторыя гандлю ў Беларусі (ад старажытнага часу да канца XX ст.). Праблемы вывучэння і перспектывы даследавання. Матэрыялы І Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 14–16 лістапада 2013 г.). – Мінск: Тэхналогія, 2014. – 295 с.**

Упершыню пад адной вокладкай сабраныя навуковыя артыкулы прысвечаныя выключна гісторыі беларускага гандлю, якія ахопліваюць перыяд ад глыбокай старажытнасці да пач. XXI стагоддзя. Дадзенае выданне стане карысным як для адмыслоўцаў у галіне эканамічнай гісторыі Беларусі, студэнтаў гістарычных і эканамічных спецыяльнасцяў, гэтак і ўсім, хто цікавіцца эканамічнай гісторыяй і назапашаным досведам прадпрымальніцтва ў Беларусі.



**Шаланда Аляксей. Таямнічы свет беларускіх гербаў: Шляхецкая геральдыка Вялікага княства Літоўскага. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2014. – 220 с., [12] л. іл.**

Новая навукова-папулярная кніга вядомага айчыннага даследчыка геральдыкі прысвечана гербам беларускай шляхты ў канцы XIV–XVIII ст. Упершыню разглядаюцца перадумовы, шляхі фарміравання і асаблівасці развіцця шляхецкай геральдыкі ў Вялікім княстве Літоўскім. У асобнай главе ахарактарызаваны асновы тэарэтычнай геральдыкі з яе законамі і правіламі, уводзіцца ва ўжытак традыцыйная беларуская геральдычная тэрміналогія.

Для шырокага кола чытачоў, якія цікавяцца гісторыяй Беларусі, а таксама праблемамі беларускай геральдыкі і сфрагістыкі.



**Мельнікаў Ігар. Заходнебеларуская Атлантыда 1921–1941 гг. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 428 с.: іл.**

Кніга прысвечаная малавядомым старонкам гісторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны час. У савецкія гады мінулае заходнебеларускіх тэрыторыяў вывучалася досыць аднабакова, а шмат якія гістарычныя сюжэты заставаліся па-за ўвагай даследчыкаў. З цягам часу гісторыя гэтых тэрыторыяў ператварылася ў «Атлантыду», пра якую сучаснае беларускае грамадства амаль нічога не ведае. Дадзеная кніга і звяртае ўвагу чытача на невядомыя аспекты мінуўшчыны Заходняй Беларусі ў 1920–1940-я гады.



**Плавінскі М.А. і інш. Курганныя могільнікі захаду Браслаўскага Паазер'я (матэрыялы раскопак 1978–2010 гадоў). М.А. Плавінскі, Л.У. Дучыц, А.М. Плавінскі, В.І. Шадыра. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 220 с.: іл.**

Кніга прысвечана публікацыі і аналізу матэрыялаў раскопак курганных могільнікаў заходняй часткі Браслаўскага Паазер'я, якія праводзіліся аўтарамі на працягу 1978–2010 гг. На падставе дадзеных гэтых раскопак і прыцягнення матэрыялаў іншых даследаванняў аўтары вызначаюць храналогію і асаблівасці засялення рэгіёна, а таксама этнакультурную прыналежнасць яго насельніцтва.

Разлічана на археолагаў, гісторыкаў, музейных супрацоўнікаў, краязнаўцаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй і археалогіяй Беларусі.

**Валахановіч Анатоль. Узлёты і падзенні Вільгельма Кубэ: яго бачанне будучыні Беларусі. Мінск: ФУАінформ, 2014 – 276 с.**



Кніга прысвечана Вільгельму Кубэ (1887–1943), генеральнаму камісару Беларусі, гаўляйтару, дзяржаўнаму і палітычнаму дзеячу Трэцяга рэйха, драматургу, мастацтвазнаўцу, журналісту, пісьменніку. Шмат старонак у кнізе прысвечана «паляванню», падрыхтоўцы і забойству В. Кубэ і яго бачанню будучыні Беларусі, якія за мінулыя дзесяцігоддзі абраслі рознымі міфамі. Яго жыццёвы лёс быў адлюстраваннем лёсу ўсяго нямецкага народа, які стаў ахвяраю ідэй Адольфа Гітлера, які загубіў сваё жыццё і лёс тых, хто фанатычна і слепа выконваў яго загады.



**Беларуска-польскі тэматычна-тэрміналагічны слоўнік=Białorusko--Polski słownik tematyczno-terminologiczny: больш за 40000 слоў. Уклад. Лявон Баршчэўскі. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 334 с.**

Слоўнік утрымлівае больш за 40 тысячаў беларускіх і польскіх тэрмінаў, паняццяў, выразаў, назваў і ўласных імёнаў з такіх дысцыплінаў, як літаратура, мова, мастацтва (культуралогія), гісторыя, грамадазнаўства (паліталогія, правазнаўства, сацыялогія, філасофія), геаграфія, біялогія, хімія, фізіка, астраномія, матэматыка і інфарматыка. Разлічаны на шырокае кола карыстальнікаў, але ў першую чаргу можа быць карысны школьнікам і студэнтам (перш за ўсё гуманітарных напрамкаў) Беларусі і Польшчы.



**Цыхун Апанас. Скарбы народнай мовы. Уклад. Іван Буднік. – Гродна, 2014. – 338 с. – (Гарадзенская бібліятэка).**

«Скарбы народнай мовы» – гэта слоўнік гаворкі насельнікаў Гродзеншчыны – заходняй часткі Беларусі, памежжа, дзе жылі народы, розныя па этнічным паходжанні і рэлігійных вераваннях. Стракаты этнічны склад паўплываў на мову жыхароў прывёў да яе ўзаемаўзбагачэння. І гэтую асаблівасць гаворкі заўважыў і адлюстраваў у слоўніку «ўлюбёны ў сваю зямлю» Апанас Пятровіч Цыхун. Ён шмат павандраваў, пахадзіў, паездзіў па Гродзеншчыне, наведаўшы амаль усе населеныя пункты рэгіёна, і ўсюды пільна і прагна прыслухоўваўся да народнай гаворкі, занатоўваў яе багацці ў свой паходны сшытак. У 1993 г. яму ўдалося з вялікімі цяжкасцямі выдаць сабранае лексічнае багацце асобнай кніжкай, але ў яе было ўключана трохі больш за палову ад сабранага. У наступныя гады ён настойліва дапаўняў і дапрацоўваў слоўнік. Недарэмна шматгадовую і плённую працу А.П. Цыхуна назваў Народны пісьменнік Беларусі Ніл Плевіч «патрыятычным подзвігам настаўніка».

Цяперашняе выданне «Скарбаў народнай мовы змяшчае каля 10 000 словаў словазлучэнняў фразеалагізмаў прыказак, трапных выразаў з народнай гаворкі.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89
А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by

# «Вершы не пішуцца, а нараджаюцца...»

(Пачатак на стар. 1)

Безумоўна, падняцца з нуля пачынаючым творцам усюды нялёгка. Праўда, трэба разумець, што зарплаты і пенсіі ў развітых краінах не такія жабрачыя, як у Беларусі. Чалавек, які працуе інжынерам, урачом, адвакатам, проста рабочым, але спрабуе сябе ў літаратуры, мае магчымасць спраўдзіць сваю мару. Пакрыху адкладваючы, можна сабраць грошы на выданне кнігі. Я некалі пазнаёміўся з італьянскім празаікам, які дзеля стварэння задуманага твора нават памяняў працу і стаў афіцыянтам у рэстаране. Раман пра людзей гэтай прафесіі – першы ў яго жыцці – стаў у Італіі бестселерам. А выдаў ён кнігу на ўласныя грошы.

У СССР друкавацца было нашмат прасцей, таленавітаму чалавеку не трэба было плаціць за выданне. Ён атрымліваў яшчэ і неблагі ганарар. Затое існавала драконаўская цэнзура, у барацьбе з якой маю багаты вопыт, бо на працягу амаль дзевяці гадоў давялося ратаваць выдатныя кнігі В. Быкава, А. Адамовіча, У. Караткевіча, П. Панчанкі, А. Разанава, п'есы А. Макаёнка.

У пэўным выглядзе савецкія парадкі перайшлі ў Рэспубліку Беларусь. Але цяпер правіць баль аўтарытарная ідэалогія, якая дзеліць пісьменнікаў на «нашых» і «нянашых». Ніякай падтрымкі «нянашым», якія маюць свой погляд на рэчаіснасць, няма, з імі ідзе напружаная вайна.

З 2000 года дзяржава да маіх кніг не мае ніякіх адносінаў. У час, гнілы і хісткі для нацыі, надзвычай неспрыяльны асабіста для мяне, быць адразу аўтарам і фундатарам сваіх выданняў, што рабіў неаднаразова, няпроста. Але я аптымізму не губляю.

**– Вы вядзеце пастаянную рубрыку «Пункт гледжання» ў газеце «Свободные новости плюс». Як у Вас атрымліваецца так аператыўна, грунтоўна і красамоўна адгукацца на самыя злабадзённыя падзеі? Ці прыслухоўваюцца да Вашых прапановаў і парадаў?**

– У мяне за плячыма ёсць пэўны журналісцкі вопыт (раённая газета, «Чырвоная змена», «Звязда»). Амаль 16 гадоў быў галоўным рэдактарам часопіса «Полымя», дзе мусіў не толькі рэдагаваць, але і арганізаўваць напісанне літаратурнай публіцыстыкі. Так што гэты жанр для мяне не новы. Я на працягу ўсяго жыцця прывык да перапрацоўкі розумам і душою вялікай плыні інфармацыі, цяпер таксама ўважліва сачу за падзеямі ў краіне і свеце, па меры магчымасці вандрую. Гэта дапамагае быць у пэўнай інтэлектуальнай форме, мець свае меркаванні. Лічу жанр публіцыстычнага роздуму вельмі прыдатным для місіі ненавязлівага асветніцтва, якая патрэбна заўжды, і асабліва ў час жорсткіх інфармацыйных войнаў.

Што тычыцца рэакцыі на мае прапановы і парады, то ад улады канкрэтных водгукаў ніколі няма. Але часам заўважаю ў яе «варушэнні» пэўны адбітак маіх публікацыяў. Затое маю шмат лістоў, цікавых тэлефонных размоваў з чытачамі рубрыкі, што, вядома, радуе, бо праца не прападае марна.

**– За сваё жыццё Вы нямала павандравалі па свеце. Як ставяцца да беларускай культуры і літаратуры ў свеце? Што, на Вашую думку, трэба зрабіць, каб на сучасную беларускую літаратуру звярнулі ўвагу чытачы з іншых краінаў?**

– Я вітаю і люблю любыя вандроўкі, але сам ніколі не быў простым турыстам, які ходзіць услед за экскурсаводам і паварочвае галаву ўлева або ўправа, разглядаючы выдатныя мясціны нейкай краіны. Так склалася, што кожны мой выезд за мяжу меў пад сабою грунтам літаратурныя падзеі (удзел у паэтычных фестывалях, канферэнцыях, семінарах, сустрэчах, выступленні з дакладамі, лекцыямі ў адукацыйных цэнтрах і г. д.) або клопаты, звязаныя з наступствамі Чарнобыльскай катастрофы, калі давялося, зноў жа паэзіяй, у час платных канцэртаў у Германіі, Польшчы зарабляць грошы на лекаванне хворых дзяцей, набыццё медыцынскага абсталявання, лекаў, вітамінаў для беларускіх бальніц. Мой шматгадовы вопыт дапамогі тым, хто пацярпеў ад аварыі, паказаў, што паэтычныя радкі маюць не толькі духоўную, але і матэрыяльную сілу, бо дапамагаюць ратаваць фізічнае здароўе людзей.

Што тычыцца стаўлення да беларускай культуры і літаратуры ў свеце, то адказваць на гэтае пытанне складана. Па-першае, у многіх месцах, дзе я быў, людзі слаба ведаюць або нават зусім не ведаюць самую краіну Беларусь, а мы часта хочам прымаць жаданае за сапраўднае. Па-другое, культура і літаратура – гэта не палітыка, тут сітуацыя больш прыхаваная. Нейкі плён, безумоўна, даюць дні культуры, абменныя выезды беларускіх тэатральных і канцэртных калектываў за мяжу. Але гэта разавыя акцыі, мерапрыемствы святочнага кшталту. Свята прайшло, а што засталося ў душы?

У другой палове XX стагоддзя кнігі некаторых беларускіх пісьменнікаў (І. Мележа, Я. Брыля, У. Караткевіча, І. Шамякіна і інш.) параўнаўча часта выдаваліся ў савецкіх рэспубліках і ў краінах г. зв. «народнай дэмакратыі». Рашучы прарыў у Еўропу, Азію і Лацінскую Амерыку зрабіў у той час сваімі выдатнымі аповесцямі Васіль Быкаў.

У сучасны момант чытачы суседніх краінаў (Украіна, Расія, Польшча, Літва, Чэхія) нешта ведаюць пра беларускае літаратурнае жыццё. З больш далёкім светам інфармацыйныя і ўзаемаперакладніцкія літаратурныя стасункі слабейшыя, за выключэннем, можа, Германіі і Швецыі. Канешне, беларускія кнігі ў перакладзе выходзяць і ў іншых краінах. Іх нямала, а аўтары – ад класікаў і да самых маладых.

Але трэба рэальна ацэньваць гэтыя прыемныя для аўтараў падзеі. Калі ў Варшаве двойчы выходзіла мая кніга паэмаў «Чорны конь Апакаліпсісу», а ў Сафіі кніга «Шлях душы», гэта ніколькі не азначае, што палякі ці балгары масава ведаюць такога паэта. Многія з нас невядомыя нават шырокаму колу айчынных чытачоў.

Найбольш у свеце выдаюцца і карыстаюцца попытам кнігі Святланы Алексіевіч, што сам неаднаразова бачыў і чуў на сустрэчах з чытачамі ў Германіі, Францыі, Польшчы.

Беларуская літаратура стане цікавай іншаземцам, калі будзе выходзіць на сапраўды агульначалавечыя тэмы, якія хвалююць кожнага зямляніна, напаўняцца нацыянальным каларытам, аўтарскай шчырасцю і праўдай, мець новыя прыцягальныя формы.

**– Распавядзіце, як ствараюцца Вашыя вершы, што натхняе Вас на творчасць? Над чым Вы цяпер працуеце, чым парадуеце нас у найбліжэйшай будучыні?**

– Вершы не пішуцца, а нараджаюцца. Звычайна гэта здараецца з аднаго радка або страфы, што выпырхваюць з душы. Далей, як кажуць, справа тэхнікі. Але гэта не азначае нейкі канвеер, з нарыхтовак выбіраецца самае лепшае. Бывае, што доўгі час на вершы не цягне. А натхняе мяне будзённае жыццё, у якім, як ні дзіўна, шмат паэзіі, жывых імпульсаў для творчасці.

Пакрысе пішу складаную для мяне ў прафесійным плане кнігу «Рабскі дзень, вольная ноч», дапаўняю рукапіс успамінаў «Згадкі Вогненнага Пса». Ёсць гатовыя тры рукапісы публіцыстыкі. Што тычыцца паэзіі, то новы зборнік вершаў можа быць падрыхтаваны і сёлета. Але наперад забягаць нявarта, пажывем – пабачым.

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Таццяна Барысік. Жанчына і леапард. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 132 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 56).**

Зборнік апавяданняў – непрыдуманых гісторыяў – магілёўскай літаратаркі Таццяны Барысік «Жанчына і леапард» з'явіўся ў серыі «Кнігарня пісьменніка». Большасць сюжэтаў, з якімі вы сутыкнецеся ў гэтым зборніку, – узятыя з нашага паўсядзённага жыцця. Беларуская правінцыя на мяжы тысячагоддзяў, клопаты, праблемы і радасці сучасных вяскоўцаў і гараджанаў, уся гама чалавечых пачуццяў знаходзяць сваё адлюстраванне ў невялікіх апавяданнях пісьменніцы. Узор сучаснай жаночай прозы – лаканічна і дасціпна, захапляльна і філасафічна, з пранікненнем у псіхалагічныя таямніцы чалавечых стасункаў.




**Сяргей Дубавец. Сіні карабель у блакітным моры плыве. – Мінск: Ковчег, 2014. – 172 с.**

«Літаратурныя коміксы з мантрамі і саўндтрэкам, псеўдафіласофскія барэльефы нашай беднай цывілізацыі, пошукі вечнасці ў гэтым дачасным свеце і ўсё астатняе, чаго няма, не бывае й не можа быць», – гэтак інтрыгоўна анансуецца новая кніга Сяргея Дубаўца.

«*У гэтай кнізе няма абсалютна нічога, што было б хоць неяк звязанае з рэальнасцю. Гэта кніжка абсалютна пра нерэальнае. Не ведаю, наколькі мне гэта ўдалося, але, па-мойму, у беларускай літаратуры нічога такога яшчэ не было. Калі казаць пра нейкія сусветныя аналагі або пра тое, на што я арыентаваўся, то я б мог згадаць Стругацкіх, Станіслава Лема, Рэя Брэдберы*», – прызнаўся аўтар у гутарцы на Радыё Свабода.




**Тацяна Сапач. Раннія вершы. Факсімільнае выданне. – 2014.**

Раннія вершы Тацяны Сапач даюць уяўленне пра самы пачатак творчасці аўтаркі, вершы якой завяршаюць сабою залатое ХХ стагоддзе беларускай паэзіі. Выданне падрыхтавалі Сяргей Дубавец і Віктар Корзун. Гэты рукапісны зборнік – ад зусім юных, школьных і традыцыйных да тых, у якіх пазнаецца ўжо аўтарка «Восені» – адшукаўся ў хаце Тацяніных бацькоў. Некаторыя з гэтых твораў друкаваліся ў маладзечанскай раёнцы задоўга да першага зборніка.

«Раннія вершы» – унікальнае для Беларусі факсіміле: кніга выдадзеная ў той самай форме, у якой і была створаная, – сшытка рукапісных вершаў (Тетрадь для заметок, Цена 30 коп.) з захаваннем нават арыгінальных колераў пярэстых атрамантаў.

У прадмове да кнігі С. Дубавец піша: «*Раннія вершы складаюць поўны кантраст зборніку «Восень» – эстэцкаму, поўнаму філасофіі і маркотных настрояў. Гэты – амаль цалкам пазітыўны, просты, «народны». Тут – спрадвечная беларуская чалавечая праграма – этычная і эстэтычная. Гэта як глеба, на якой пазней вырасце Тацянін мастацтва чыстай красы*».

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 30
люты, 2015
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 30 24.02.2015.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com